

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№11 (175) ЛІПЕНЬ 2014 ГОД

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## ПАМЯЦЬ АБ ВАЙНЕ ПАВІННА ЖЫЦЬ

**У Шумілінскім раёне працягваецца работа па ўвекавечанні памяці грамадзян, загінулых пры абароне Айчыны.**

З тых балючых часоў мінулага ліхалецця прайшло 70 гадоў. Аднак па-ранейшаму тысячы людзей шукаюць інфармацыю пра лёс сваіх родных і блізкіх, якія загінулі падчас Другой сусветнай вайны. Безумоўна, за гістарычнымі звесткамі хаваецца вельмі грувасткая праца даследчыкаў. Паколькі у Беларусі няма адзінай базы дадзеных і імёны далёка не ўсіх салдатаў устаноўлены, вельмі няпроста даць адказ на запыты сваякоў загінулых, вызначыць іх месцы пахавання.

Аднак адным экспертам не пад сілу адшліфаваць безліч дакументаў. Таму у гэтым ім дапамагаюць і мясцовыя органы ўлады. У Шумілінскім раёне ўжо створаны электронны банк даных воінскіх пахаванняў і ахвяр вайны. Дзякуючы свабоднаму доступу да архіўных матэрыялаў Міністэрства абароны Расіі і праведзенай пошукавай рабоце ўдалося ўстанавіць імёны 492 раней невядомых салдат.

Сёлета на тэрыторыі раёна працаваў 52-і спецыялізаваны пошукавы батальён. Праводзіліся работы на 4 аб'ектах, знойдзены астанкі 11 воінаў, устаноўлена імя аднаго – Галіуліна Нарулы, які загінуў 5 сакавіка 1944 года. Усяго за апошнія 2010-2014 гады праведзены работы на 11 аб'ектах. За 2010-2013 гады перахаваны астанкі 29 загінуўшых абаронцаў Айчыны.

Бадай што, адна з галоўных задач на сённяшні дзень, што стаіць перад на-шчадкамі ўдзельнікаў вайны— увекавечванне памяці загінуўшых савецкіх салдат і ахвяр.

На сённяшні дзень на Шуміліншчыне знаходзіцца 116 месцаў баявой і воінскай славы. На нашай зямлі пахаваны 10 411 загінуўшых воінаў, з якіх невядомы імёны 2217 чалавек.

На дзяржаўным уліку стаіць 58 воінскіх пахаванняў.

На чарговай сесіі райсавета на чале з Ірынай Новікавай разглядалася пытанне аб увекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр вайны. Падчас мерапрыемства было адзначана, што ў раёне нямала зроблена па ахове, рамонту і рэстаўрацыі воінскіх помнікаў. За ўсімі воінскімі помнікамі замацаваны шэфскія арганізацыі.

За 2011- 2014 гады на рамонт воінскіх пахаванняў, выраб мемарыяльных пліт накіравана 349,3 мільёна рублёў, у тым ліку са сродкаў, заробленых працоўнымі калектывамі на раённых суботніках, –124,4 мільёна рублёў. Апроч таго, было яшчэ выяўлена 6 воінскіх пахаванняў у Дабейскім, Лаўжанскім, Каўлякоўскім і Мішневіцкім сельсаветах, якія раней не былі ўлічаны. Пошукавая работа ў гэтым накірунку працягваецца.

У сваю чаргу кіраўнік раёна Уладзімір Куранны выказаў заклапочанасць дзейнасцю гэтак званых "чорных капальнікаў", якія разбураюць памятныя мясціны, гандлююць гістарычнай памяццю. Пра такія выпадкі грамадзяне павінны паведамляць у міліцыю, у сельсаветы, у райвыканкам. Гэта крымінальнікі, якіх трэба прыцягваць да адказнасці.

Пакуль што не завершана работа па перавыданні кнігі "Памяць", у ёй сабрана тое, аб чым трэба памятаць вечна, аб чым нельга забываць. Бо народ, які не помніць мінулае, пазбаўлены будучыні.

**Алесь Шумскі**

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

ПАЖАРНАЯ БЯСПЕКА

## НЕ ЗАБЯСПЕЧВАЕЦЦА БЯСПЕКА АБ'ЕКТАЎ

**Работнікамі Шумілінскага аддзела НС былі праведзены праверкі выканання заканадаўства ў галіне пажарнай бяспекі. За выяўленыя шматлікія парушэнні правілаў пажарнай бяспекі шэраг адказных асобаў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.**

У мэтах папярэджання пажараў, траўматызму і гібелі ад іх людзей органы дзяржаўнага пажарнага нагляду Шумілінскага раённага аддзела па НС праводзяць планавыя і пазапланавыя праверкі суб'ектаў гаспадарання на прадмет выканання імі патрабаванняў заканадаўства аб пажарнай бяспекі і іншых нарматыўных прававых актаў сістэмы супрацьпажарнага нармавання і стандартызацыі.

На гэты раз інспекцыяй пажарнага нагляду за чэрвень 2014 года былі абследаваны тэрыторыі, вытворчыя памяшканні і аб'екты сельгаспрадпрыемстваў «Шумілінскі райаграсэрвіс», ААТ «АграБаравінка», ААТ «Ляжні».

Як паказала праверка, кіраўніцтвам «Шумілінскага райаграсэрвісу» не прымаюцца меры па прывядзенню падведамасных будынкаў у належны супрацьпажарны стан. Сярод парушэнняў адзначана эксплуатацыя няспраўных ацяпляльных печаў (расколіны, адслаення тынкоўкі, печы не пабелена, няспраўны зашчапкі дзверцаў, азбестацементавыя трубы ў комінах), у непасрэднай блізкасці да награвальных элементаў ацяпляльных печаў размешчаны гаручыя матэрыялы (дровы і абутак).

Выяўленыя недахопы і на іншых вытворчых аб'ектах. Да прыкладу, адсутнічае кантроль за станам электрычных сетак, прафілактычная ачыстка сетак ад гаручага пылу не праводзіцца, дапускаецца эксплуатацыя награвальных прыбораў без нагляду. Да таго ж не былі обкошаны тэрыторыі будынкаў ферм, склады ГЗМ у аграгарадку Светласельскі і вёсцы Победа.

Смецце з тэрыторыі не вывозіцца (такарны цэх, рамонтныя майстэрні па вуліцы Юбілейная, рамонтныя майстэрні вёска Добрына). У тамбурах жывёлагадоўчых ферм дапускаецца размяшчэнне грубых кармоў і подсцілу; тэлефонная сувязь на ферме в Слабада адсутнічае. Аб'екты не забяспечаны неабходнай колькасцю першасных сродкаў пажаратушэння; скрыні з пяском выкарыстоўваюцца для адходаў вытворчасці і збору смецця (мехток у аграгарадку Светласельскі).

Апроч таго, не правядзена работа па пытанню супрацьпажарных інструктажоў, у работнікаў слабы ўзровень ведаў у галіне прызначэння і прынцыпу выкарыстання першасных сродкаў пажаратушэння, дзеянняў у выпадку выяўлення узгарання. Ступень выканання раней прапанаваных мерапрыемстваў складае 30%. Стан пажарнай бяспекі аб'ектаў ацэньваецца: «не адпавядае патрабаванням».

Усяго па выніках праверкі ўручаны акт і прадпісанне, дырэктару прапанавана да ліквідацыі 237 мерапрыемстваў супрацьпажарнага характару. Дарэчы, да адміністрацыйнай адказнасці быў прыцягнуты і дырэктар гаспадаркі.

На прадпрыемстве "Аграбаравінка" праведзена пэўная работа па павышэнні ўзроўню супрацьпажарнай аховы аб'ектаў. Так, на тэхніку, задзейнічаную ў нарыхтоўцы грубых кармоў, закуплены вогнетушыцелі. Аднак разам з тым аб'екты: МТФ на 800 галоў у аграгарадку Башні, цялятніка вёскі Дубраўскія, в.Лажок, в. Саладухі, в. Мазекі, кароўнік № 2 і цялятнік № 1 в. Язвіна; склады ГЗМ эксплуатуюцца з адсутнасцю першасных сродкаў пажаратушэння. Пажарныя шчыты складоў ГЗМ разабраны.

Свяцільнікі ў жывёлагадоўчых будынках устаноўлены і эксплуатуюцца без ахоўных плафонаў. На прадпрыемстве не праводзіцца аналіз стану пажарнай бяспекі будынкаў і збудаванняў. Ступень выканання папярэдняга прадпісанні складае 15%. Стан пажарнай бяспекі аб'ектаў ацэньваецца як "не адпавядае патрабаванням".

Па выніках праверкі уручаны акт і прадпісанне, дырэктару прапанавана да ліквідацыі 251 мерапрыемства супрацьпажарнага характару, да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты дырэктар і галоўны інжынер.

У "Ляжнях" інспектары зафіксавалі аналагічныя парушэнні правілаў пажарнай бяспекі.

Аб'екты гаспадаркі таксама былі не ў поўным аб'ёме забяспечаны першаснымі сродкамі пажаратушэння, не абсталяваны аховай ад маланак і сістэмай абвесткі людзей аб пажары; не забяспечаны супрацьпажарным водазабеспячэннем; ацяпляльныя печы ў вытворчых памяшканнях выкананы не ў адпаведнасці з патрабаваннямі нормаў.

Злучэнні электрычных кабеляў у размеркавальных скрынках і на падключэнне электраабсталявання выкананы скруткай; не выкананы замеры супраціўлення ізаляцыі электрычных кабеляў, электрычныя кабелі пры праходжанні праз гаручыя канструкцыі памяшканняў не маюць дадатковай абароны. У памяшканнях пілярамы размеркавальныя скрынкі не зачыненыя ахоўнымі вечкамі. Аналіз супрацьпажарнага стану аб'ектаў адсутнічае. Ступень выканання папярэдняга прадпісанні складае 33%. Стан пажарнай бяспекі аб'ектаў ацэньваецца як "адпавядае патрабаванням не цалкам".

Па выніках праверкі адказным асобам уручаны акт і прадпісанне. Прыняты меры адміністрацыйнага пакарання, да якіх былі прыцягнуты дырэктар і галоўны інжынер. Дырэктару прапанавана да ліквідацыі 188 мерапрыемстваў супрацьпажарнага характару.

**Ян Вайтовіч**

З ЗАЛЫ СУДА

## ЗАГАННЫ МЕТАД ВЫХАВАННЯ

**Шумілінец быў прыцягнуты да судовай адказнасці за тое, что лупцаваў малалетняга хлопчыка папружкай за непаслухмянасць.**

Адзін мужчына вырашыў прымяніць не арыгінальны, але, на яго думку вельмі дзейсны метад выхавання, вядомы людзям здаўна. За непаслухмянасць і дрэнныя паводзіны ён наўпрост вырашыў адлупцаваць малалетняга хлопчыка, які даводзіўся братам яго жонкі. Хлопчык у іх доме часта заставаўся наначкі, але нібыта паводзіў сябе дрэнна і сваволіў.

Таму нядбайны выхавацель з дапамогай папружкі так лупцаваў пляменніка па чым трапіць, што той аказаўся ў бальніцы. Як высветлілася, мужчына прычыніў хлопчыку лёгкія цялесныя пашкоджанні, якія, на шчасце, не пацягнулі за сабой кароткачасовага расстройства здароўя.

Праўда, маці хлопчыка адмовілася прыцягваць сваяка да адміністрацыйнай адказнасці. Аднак, нягледзячы на гэта, раённай пракуратурай пасля вывучэння фактаў быў складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні. Пасля чаго справа была накіравана для разгляду ў суд.

У выніку пастановай суда Шумілінскага раёна мужчына быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці. На падставе часткі 1 артыкула 9.1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Беларусі яму было прызначана адміністрацыйнае спагнанне ў выглядзе штрафу ў памеры 15 базавых велічынь (2 мільёны 250 тысяч рублёў). Цяпер ёсць спадзяванні, што гэта навука выхавання для дарослага правапарушальніка больш эфектыўна дойдзе да свядомасці, каб не паўтараліся заганныя метады даўніны.

**Я. Вайтовіч**

МОЛАДЗЬ ЗА БЯСПЕКУ

# ДЗЕЦІ ПАДАРАВАЛІ СВЯТА

**Работнікі Шумілінскага РАНС ў рамках рэспубліканскай прафілактычнай акцыі "Канікулы без дыму і агню" наведалі дзіцячы аздараўленчы лагер "Дружба", што ў аграгарадку Амбросавічы.**

Спачатку ў госці да шумілінскіх ратавальнікаў завіталі мясцовыя школьнікі. Да гэтага візіту хлопчыкі рыхтаваліся грунтоўна, таму і здолелі здзівіць ратавальнікаў. А ў якасці падарунка ўласнымі сіламі яны зрабілі маляўнічую віншавальную насценную газету. Апроч таго, дзеці падрыхтавалі цікавую канцэртную праграму. Віншаванні ад дзяцей, напоўненыя шчырымі словамі падзякі, захаплення і ўдзячнасці за гераічную працу нашых агняборцаў, не пакінулі абыякавымі ні аднаго работніка РАНС.

У сваю чаргу ратавальнікі зладзілі для дзяцей займальную аглядную экскурсію, падчас якой хлопцы змаглі азнаёміцца са службай і побытам ратавальнікаў, пажарнай аварыйна-выратавальнай тэхнікай і абсталяваннем.

У гэты ж дзень работнікі Шумілінскага РАНС ў рамках рэспубліканскай прафілактычнай акцыі «Канікулы без дыму і агню» наведалі дзіцячы аздараўленчы лагер "Дружба", які размешчаны на беразе возера Будавесць ў аграгарадку Амбросовічы.

Супрацоўнік унутранай службы маёр Шархун В.В. выступіў з прамовай перад хлопцамі і работніка летніка. Афіцэр расказаў аб асноўных прычынах пажараў, аб тым, якія правілы бяспекі варта выконваць, каб не дапусціць пажараў і як дзейнічаць у выпадку іх узнікнення.

Былі ўзняты і пытанні, якія тычацца бяспечных паводзін на вадаёмах і ў лясных масівах. Для больш эфектыўнага замацавання атрыманых ведаў былі прадэманстраваны навучальныя відэафільмы.

На заканчэнне дзяцей азнаёмілі з пажарнай аварыйна-выратавальнай тэхнікай і ўзбраеннем, першаснымі сродкамі пажаратушэння. Дзеці змаглі прымерыць баявую вопратку, а ў завяршэнні убачыць элементы баявой працы ратавальнікаў.

**Уладзімір Амбросаў**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# ВЫБУХ ПАЛІЎНАГА БАКА

**У гарадскім пасёлку Обаль пры правядзенні зварачных работ падчас рамонту паліўнага бака адбыўся выбух. Трое мужчын атрымалі апёкі.**

5 ліпеня на тэрыторыі гаражоў УП ЖКГ у гарпасёлку Обаль праводзіліся зварачныя работы па рамонце паліўнага бака ў 500 літраў на аўтамабілі "Сканія". Зварачныя работы праводзіў зваршчык Обальскага падраздзялення унітарнага прадпрыемства «ЖКГ Шумілінскага раёна», яму аказвалі дапамогу яшчэ двое мужчын. Аднак нягледзячы на тое, што паліва з бака было зліта, а мацаванні адлучаны, падчас правядзення работ адбыўся выбух пароў паліва.

У выніку выбуху работнікі атрымалі апёкі рознай ступені цяжкасці. Адзін з іх, 1968 года нараджэння знаходзіцца ў рэанімацыі ў цяжкім стане (апёкі 1-2 ступені, 46% цела), двое іншых, 1961 (1-3 ступені, 12% цела) і 1956 года нараджэння (1-3 ступені, 13% цела) знаходзяцца ў хірургічным аддзяленні раённай бальніцы ў стане сярэдняй цяжкасці.

Як высветлілася, прычынай выбуху з'явілася парушэнне супрацьпажарных патрабаванняў пры правядзенні агнявых работ.

**Сяржук Горкі**
**па зводках МНС**

НАВІНЫ КІНО

# НОВЫ ФІЛЬМ ПРА ОБАЛЬСКІХ ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ

**Выйшаў ў светцыкл дакументальных фільмаў «Выпрабаванне», прысвечаных 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Адзін з васьмі фільмаў – стужка «Юныя мсціўцы» распавядае за юнакоў і дзяўчат, удзельніках Обальскай падпольнай арганізацыі ў Шумілінскім раёне.**

Гэта была сумесная праца тэлекампаніі «ВаенТБ» і Белтэлерадыёкампаніі

Усяго ў цыкле «Выпрабаванне» восем фільмаў, у аснову сюжэту якіх ляглі падзеі, якія адбываліся на акупаванай фашыстамі беларускай зямлі. Гледачам прапануюцца малавядомыя факты і ўнікальныя дакументы, а таксама некалькі версій трактоўкі тых падзей сучаснымі гісторыкамі.

У фільмах распавядаецца аб галоўным урачом шпіталя Брэсцкай крэпасці Барысе Маславай, Мінскім гета, лёсах дзяцей з лагера «Чырвоны бераг», лёсе сьвятароў з Клецка - братоў Мікалая і Георгіі Хільтавых.

Яшчэ адзін з фільмаў прысвечаны Віцебшчыне - стужка «Юныя мсціўцы» распавядае за юнакоў і дзяўчат, удзельніках Обальскай падпольнай арганізацыі ў Шумілінскім раёне Віцебскай вобласці. Падпольная арганізацыя "Юныя мсціўцы" была створана ў станцыйным пасёлку Обаль у снежні 1941 года.

У склад арганізацыі ўваходзілі жыхары навакольных вёсак Зуі, Ушалы, Масцішча, Ферма і самой Обалі. Маючы радыёпрымач, хлопцы запісвалі зводкі Совінфбюро і распаўсюджвалі ўлёткі. Імі былі здзейсненая 21 дыверсія: ўладкаваўшыся ў афіцэрскую сталовую афіцыянткамі, Зіна Партнова і Ніна Давыдава атруцілі больш за сто фашыстаў. Зіна ледзь не загінула (яе правяралі, прымусіўшы ёсць атручаны суп) і здолела сысці да партызанаў, а Ніна была схопленая і расстраляна.

Аднак далейшы лёс падпольшчыкаў склаўся таксама трагіча, іх выдалі і расстралялі амаль усіх - пасля расстрэлу з 38 ў жывых засталіся ўсяго 3 чалавекі, а канца вайны дачакаўся толькі адзін чалавек - камандзір і стваральнік "Юных мсціўцаў" Ефрасіння Зянькова. Самым юным удзельнікам падполля стала 15-гадовая Зіна Партнова, будучы Герой Савецкага Саюза.

Зразумела, у падпольшчыкаў былі свае агенты ў нямецкай камендатуры: Ніна Азоліна ўладкавалася перапісчыцай ў гестапа і маючы доступ да дакументаў з грыфам "Сакрэтна" перадавала ўсякую карысную інфармацыю партызанам. Але, на жаль, адбылося тое, пра што гаворацъ "героі гінуць раней за ўсіх" - падпольшчыкаў выдаў здраднік. Першай, па прыходзе на працу была схопленая Ніна Азоліна. Яе каталі больш за ўсіх арыштаванымі. У кастрычніку ў вёсцы Баравуха былі расстраляныя 35 камсамольцаў. Расправы ў Баравусе ўдалося пазбегнуць усяго траім: Зіне Партновай (яна ў той час ужо складалася ў партызанскім атрадзе імя Варашылава разведчыцай), Ефрасінні Зяньковай (падчас арыштаў была ў Полацку і вярнуўшыся ў Обаль, пайшла да партызан) і Аркадзю Барбашову (быў папярэджаны і разам з Зяньковай сышоў да партызанаў).

У снежні 1943 года Зіна Партнова была адпраўлена ў выведку ў вёску Масцішча - высветліць прычыну правалу "Юных Мсціўцаў" Вяртаючыся, была схопленая немцамі. Юную патрыётку метадычна дапытвалі і катавалі. 10 студзеня 1944 года пакутам Зінаіды Партновай прыйшоў канец - яе расстралялі ў Полацку. Аб слаўных справах Зіны і "Юных мсціўцаў" народ даведаўся ў 1958 годзе, калі на грудзях Ефрасінні Зяньковай заблішчала зорка Героя Савецкага Саюза. Іншым падпольшчыкам пасмяротна былі ўзнагароджаны ордэнамі Леніна і Чырвонага Сцяга, а самай юнай падпольшчыцы Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 1 ліпеня 1958 года было прысвоена пасмяротна званне Героя Савецкага Саюза з узнагароджаннем ордэнам Леніна. "Юныя мсціўцы" пакінулі значны след у гісторыі Віцебшчыны ў Вялікай Айчыннай Вайне. На ўездзе ў горпасёлак Обаль стаіць мармуровы абеліск, прысвечаны Юным Героям.

**С. Горкі**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# ЗЛОДЗЕІ СКРАЛІ ЭЛЕКТРАРУХАВІКІ

**У вёсцы Язвіна былі выкрадзены тры электрарухавікі са склада, які належыць мясцоваму прадпрыемству.**

На Шумілінշчыне стартавала ўборачная капанія. Як вядома, на яе правядзенне дзяржавай затрачана шмат сродкаў. Таму асаблівая ўвага супрацоўнікаў праваахоўных органаў надаецца захаванасці выдзеленых на правядзенне кампаніі дзяржаўных сродкаў і матэрыяльных каштоўнасцяў.

Аднак злодзеі таксама не спяць у шапку. Калі ёсць магчымасць пажывіцца дзяржаўным дабром, тады цягнуць усё, што дрэнна ляжыць. У бягучым годзе ўжо выяўлены факты крадзяжу дзяржаўнай маёмасці з сельскагаспадарчых аб'ектаў. Так, ноччу шляхам пранікнення ў складское памяшканне мясцовага сельгаспадпрыемства, Якое размешчанае ў вёсцы Язвіна Шумілінскага раёна, здзейснены крадзёж трох электрарухавікоў. Нанесены ўрон склаў больш за 2 млн. рублёў.

Дарэчы, часцяком здзяйсняючы крадзеж усяго, што трапляе пад руку, грамадзяне не задумваюцца аб адказнасці.

Так, артыкулам 10.5 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь (дробны крадзеж) прадугледжана пакаранне ў выглядзе штрафу ад 10 да 30 базавых велічынь (да 4,5 млн. рублёў) або адміністрацыйны арышт. У выпадку, калі дадзенае правапарушэнне здзейснена паўторна на працягу года, штраф павялічваецца да 50 базавых велічынь.

Акрамя гэтага, судом спаганяецца сума нанесенай матэрыяльнай шкоды і што прывяло да шкоды (пашкоджанне маёмасці, абсталявання, прасты пра-цоўнага часу). Гэта значыць спагнаныя сумы судом у разы перавышаюць атрыманую ад крадзяжу прыбытак.

Артыкулам 205 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (крадзеж), у залежнасці ад сумы нанесенай шкоды, прадугледжана пазбаўленне волі да 3 да 12 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

**Сяржук Горкі**
**па зводках УУС**

# ПАЙШЛА Ў ЛЕС І ЗАБЛУДЗІЛАСЯ

**У лясным масіве каля вёскі Расалай Обальскага сельсавета заблудзілася ягадніца.**

Штогод з пачаткам ягаднага сезона ў службу МНС усё часцей паступаюць звароты аб дапамозе ў пошуку людзей, што заблудзіліся ў лесе. Як паказала практыка, сярод тых, хто прападае ў лесе, больш за 90% складаюць пенсіянеры-адзіночкі. Яны ведаюць ягадныя мясціны, аднак не разлічваюць на магчымасці свайго здароўя.

Вось і на гэты раз цiхi збор ягад для пенсіянеркі з Віцебска 1939 года нараджэння закончыўся гучнай трывогай для работнікаў Шумілінскага РАНС. 24 ліпеня ў 16.57 ад дзяжурнага Шумілінскага РАУС паступіла паведамленне аб тым, што у лясным масіве ў раёне вёскі Расалай Обальскага сельсавета заблудзілася грамадзянка, якая адправілася раніцай у лес па ягады. Міліцыянерам спатрэбілася дапамога ў правядзенні пошукавых работ. Прыкладна ў 17 гадзін да месца меркаванага знаходжання заблукалай пенсіянеркі выехала аддзяленне РАНС. На шчасце, ў жанчыны быў мабільны тэлефон, сувязь з ёй падтрымлівалася ўсю ноч.

А раніцай у 7 гадзін 25 ліпеня жанчына патэлефанавала ў службу 101 і паведаміла, што яна ў дапамозе не мае патрэбы, як выйсці з лесу – ведае сама. Пры гэтым дадала, што будзе працягваць збіраць ягады.

Прынамсі, выратавальная аперацыя не закончыцца, пакуль чалавека не знойдуць. Пошук вядзецца штодзень з раніцы і да прыцемак. Як бачна з практыкі, больш за ўсё губляюць арыентацыю ў лесе пажылыя людзі, але можа заблудзіцца кожны. Таму бярыце з сабой заўсёды мабільны зараджаны тэлефон. А калі вы дрэнна арыентуецеся ў лесе, лепш не рызыкуйце і не заходзіце глыбока ў лес, вяртайцеся з лесу не пазней за 15 гадзін. У экстраных выпадках тэлефануйце 101 або 112.

Варта дадаць, што калі апусціць маральны аспект і колькасць спаленых нервовых клетак, такія выратавальныя аперацыі абыходзяцца бюджэту ў капеечку. Да прыкладу, толькі вылет верталёта ў дзень каштуе тры тысячы долараў. У Еўропе многія выратавальныя аперацыі завяршаюцца для пацярпелага чэкам з мноствам нулёў. У нас падобныя "фінансавыя санкцыі" да грамадзян пакуль што не прадугледжаны.

**Сяржук Горкі**
**па зводках МНС**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# ПЕРАКЛАД З РАСЕЙСКАЙ ДЫПЛЯМАТЫЧНАЙ МОВЫ

**Калі 1 верасьня 1983 году ў небе над Сахалінам савецкі зьнішчальнік «Су-15» зьбіў пасажырскі «Боінг 747» паўднёвакарэйскай авіякампаніі, які выконваў рэйс па маршруце Нью-Ёрк — Сеул, то першае паведамленьне ТАСС пра гэтую падзею выглядала прыкладна так: у паветраную прастору СССР заглыбіўся невядомы самалёт, савецкія ваенныя самалёты яго перасьледавалі, пакуль тое невядомае судна ня выйшла за нашы межы. Потым, пад ціскам фактаў, абурэньня ўсясьветнай супольнасьці Масква мусіла прызнаць, што паўднёвакарэйскі «Боінг» быў усё ж зьбіты савецкімі вайскоўцамі. І калі на прэсавай канфэрэнцыі замежныя журналісты спыталіся ў загадчыка аддзелу міжнароднай інфармацыі ЦК КПСС Леаніда Замяціна: навошта вы казалі няпраўду ў першым паведамленьні ТАСС? — то ягоны адказ можна лічыць узорам віртуознай дэмагогіі савецкай прапаганды: вы зрабілі няправільны пераклад з расейскай дыпляматычнай мовы.**

Гэтая фраза ўзгадваецца, калі слухаю заявы расейскіх афіцыйных асобаў, дзяржаўных мэдыяў з нагоды зьбіцьця малайзійскага «Боінга». Зьвяртае на сябе ўвагу незвычайная рэакцыя на гэтую трагедыю Уладзімера Пуціна. Ён, быццам чагосьці моцна спалохаўшыся, неяк дзіўна замітусіўся. Здавалася б, катастрофа здарылася на тэрыторыі суседняй дзяржавы, самалёт не расейскі, грамадзян РФ на борце не было, а паводле афіцыйнай вэрсіі Крамля, ніякай падтрымкі сэпаратыстам на ўсходзе Ўкраіны Масква не аказвае. То бок Расея быццам бы тут зусім ні пры чым. Але Ўладзімер Пуцін нібы за нешта апраўдваецца. Адразу ж пасьля падзеньня «Боінга» ён робіць бясконцыя тэлефанаваньні заходнім лідэрам, дэманстратыўна праводзіць у тэлеэфіры хвіліну маўчаньня ў памяць аб загінулых у катастрофе, выступае зь нейкім дзіўным пустым начным тэлезваротам, ліхаманкава праводзіць паседжаньне Рады бясьпекі РФ.

Непакой Пуціна зразумелы. Зьнішчэньне пасажырскага авіялайнэра прынцыпова мяняе ўвесь кантэкст расейска-ўкраінскага канфлікту. Да гэтага часу вайна на ўсходзе Ўкраіны для ўсяго сьвету, у тым ліку для ЗША і Эўропы, была ў пэўным сэнсе геапалітычнай абстракцыяй. Так, Расея парушае міжнародныя правілы, ёй трэба на гэта мякка паказаць, але псаваць адносіны з Масквой ня хочацца, бо на яе завязана шмат розных інтарэсаў.

У эпоху глябалізацыі бясьпека можа быць толькі ўсеагульнай

Цяпер становіцца відавочным, што ваенны ачаг на ўсходзе Ўкраіны — гэта пагроза міжнароднай бясьпецы. Гэтая вайна пачала забіваць грамадзян Нідэрляндаў, Малайзіі, Аўстраліі ды іншых краін, далёкіх ад месца баявых дзеяньняў. Бо ў эпоху глябалізацыі бясьпека можа быць толькі ўсеагульнай.

У мяне ёсьць сумневы, што міжнародная камісія, якая расьсьледуе прычыны катастрофы, прыйдзе да нейкіх пэўных высноваў адносна таго, хто зьбіў самалёт. Як, напрыклад, міжнародная камісія так і не прыйшла да высновы, хто прымяняў хімічную зброю ў Сырыі. Гэта цяжка зрабіць, асабліва ва ўмовах, калі супрацоўнічаць зь міжнароднымі экспэртамі вінаватыя ня хочуць, а прымусіць іх немагчыма.

Але нават калі такія высновы будуць зробленыя, то бакі ўкраінскай вайны іх не прызнаюць. Калі камісія абвесьціць, што самалёт зьбілі сэпаратысты, то лідэры ДНР, а за імі і Расея скажуць, што экспэрты ангажаваныя, купленыя Захадам. Як не прызнаў СССР вынікаў міжнароднага расьсьледаваньня трагедыі з паўднёвакарэйскім «Боінгам» у 1983 годзе. Падчас жорсткай інфармацыйнай вайны па-іншаму не бывае. Зьбіты лайнэр стане толькі новай порцыяй бэнзіну ў агонь гэтай вайны.

Аднак нават у сытуацыі няўсталяванасьці што да канкрэтных віноўнікаў зьнішчэньня малайзійскага авіялайнэра заходнія дзяржавы абвінавацілі сёньня Маскву. Пуцін не памыліўся ў сваіх прадчуваньнях. І лёгіка Захаду зразумелая. Калі, як выказаўся расейскі журналіст Уладзімер Салаўёў, «самалёт зьбіла вайна», то хто арганізаваў гэтую вайну? Без падтрымкі Расеі ваенны канфлікт на ўсходзе Ўкраіны быў бы немагчымы. У такім выпадку Масква павінна несьці палітычную адказнасьць за зьбіты авіялайнэр.

Адным з важных наступстваў авіякатастрофы над Данбасам стала больш рашучая пазыцыя Эўропы адносна неабходнасьці спыненьня ваеннага канфлікту і ацэнак пазыцыі Расеі. Цяпер у грамадзкай думцы Захаду Расея выглядае спонсарам міжнароднага тэрарызму. І ад гэтага вобразу Маскве цяжка адмыцца. Як сказаў прэм'ер Аўстраліі Тоні Эбат, «Расея ня выйдзе сухой з вады».

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

НАША ЎЛАДА

# "СЛУГІ" ПРА СЯБЕ НЕ ЗАБЫВАЮЦЬ

**Спікер Андрэйчанка прыватызаваў апартаменты коштам $400 тысяч: падрабязнасці. Да трохпакаёўкі ў Драздах ён дадаў і ўчастак у Вяснінцы.**

Чатыры аднолькавыя дамы па вуліцы Піянерскай у Мінску закрытыя ад вачэй мінчукоў сцяной забаўляльнага цэнтра, які належыць Юрыю Чыжу.

Суседства з «Арэна-Сіці» наўрадці даспадобы гаспадарам элітнага жылля. Купляючы свае кватэры, яны разлічвалі бачыць за вокнамі зязнне праспекта Пераможцаў, а не грузавікі, якія завозяць прадукты ў «Прастор».

Адметнасць дамоў — закрытая па перыметры ўнутраная пляцоўка. Дзеці гуляюцца за невысокім плотам, ніхто чужы да іх не падбярэцца, хіба што праз падземны паркінг. Кожнаму гаспадару выдзеленая прастора на стаянцы, а некаторым і па два месцы.

**Прыватныя дамы ад «свайго» забудоўшчыка**

Дамы з'явіліся ў канцы 2000-х, забудоўшчыкам быў «Трэст Прамбуд». Гэта кампанія, якая ў свой час паўстала ў шчыльным супрацоўніцтве з дзяржаўным «Мінскбудам», але фармальна з'яўляецца закрытым акцыянерным таварыствам.

Галоўным праектам «Трэста Прамбуд» была забудова раёна Драздых катэджамі для лукашэнкаўскіх чыноўнікаў.

Генеральнаму дырэктару кампаніі Віктару Мазоўку і самому дазволілі пасяліцца паміж міністраў. Дамы па Піянерскай знаходзяцца якраз праз дарогу ад тых наменклатурных кварталаў.

У 2008 годзе барысаўскі БАТЭ ўпершыню трапіў у Лігу чэмпіёнаў, а таму гульцы і трэнеры масава ўкладалі атрыманыя прызавыя грошы ў нерухомасць.

Ніякіх ільготнікаў тут няма, гаспадары набывалі жыллё ў «Трэста Прамбуда» па камерцыйнай цане. Але цікавасць выклікае толькі некалькі кватэр.

Вялізная трохпакаёўка агульнай плошчай 114 м2 належыць Уладзіміру Андрэйчанку, які раней кіраваў Віцебскай вобласцю, але ўжо шосты год узначальвае палату прадстаўнікоў.

На куплю кватэры яму магло б хапіць стабільна высокага заробку.

Раз на чатыры гады, балатуючыся ў парламент, Андрэйчанка публікуе сваю дэкларацыю аб даходах. Дык вось, у 2007, яшчэ ў статусе віцебскага губернатара, ён у сярэднім меў па $2100 за месяц. А ў 2011 Андрэйчанка-спікер задэклараваў штомесячныя $2250. Два дзесяцігоддзі на высокіх пасадах дазволілі б яму адкласці грошы фактычна на любое жыллё ў Беларусі.

Аднак, паводле дадзеных Нацыянальнага кадастравага агенцтва, сваю элітную кватэру Андрэйчанка… прыватызаваў! Яшчэ ў кастрычніку 2010 года.

**Службовае жыллё для эліты**

У 1999 Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ №286 «Аб стварэнні спецыяльнага службовага жыллёвага фонду».

У ім быў складзены спіс чыноўнікаў, якія маглі прэтэндаваць на службовае жыллё на час працы ў дзяржаўных органах «у мэтах забеспячэння належных умоў для выканання імі службовых абавязкаў, забеспячэння іх бяспекі і аховы дзяржаўных сакрэтаў».

У рэспубліканскі спіс трапілі каля дваццаці пасадаў (ад прэзідэнта да старшыні Нацбанка), а таксама дэпутаты абедзвюх палатаў парламента.

Андрэйчанка мог прэтэндаваць на такое службовае жыллё і калі кіраваў Віцебшчынай, і калі пераехаў у парламент. Для дэпутатаў з рэгіёнаў у Мінску выдзеленыя два дамы каля вуліцы Чырвонаармейскай на беразе Свіслачы. Але пасяліць «народных выбраннікаў» маглі і ў любой іншай свабоднай службовай кватэры. Ці магла прыватызаваная кватэра Андрэйчанкі быць «дэпутацкай»?

У законе «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду», які дзейнічаў на тэрыторыі краіны ад 1992 да 2013 года (летась ён страціў сілу пасля з'яўлення Жыллёвага кодэкса), адназначна сказана: жылыя памяшканні спецыяльнага службовага жыллёвага фонду не падлягаюць прыватызацыі.

**Цана — $400 тысяч**

«Прыватызацыя» кватэры азначае, што раней яна была дзяржаўнай. Але адкуль узялася дзяржаўная кватэра ў прыватным доме?

Як тлумачаць юрысты, усе забудоўшчыкі перадаюць некалькі кватэр у пабудаваным доме муніцыпальным уладам.

Гэтую нерухомасць звычайна прапануюць тым, чыё жыллё пайшло пад знос. Магчыма, кватэра Андрэйчанкі трапіла ў дзяржаўную ўласнасць менавіта па такой схеме. Але і ў такім выпадку спікер не мог прэтэндаваць на яе атрыманне.

У дакументах Нацыянальнага кадастравага агенцтва не ўдакладняецца, была прыватызацыя платнай ці бясплатнай.

Затое можна падлічыць цяперашні прыблізны кошт жылля Андрэйчанкі. На продаж выстаўленыя з дзясятак кватэр у гэтым і суседніх дамах. Квадратны метр у іх каштуе ад $2800 за голыя сцены да $5000 за дызайнерскі рамонт.

Нават калі ўзяць сярэднюю цану, то прыватызаваная трохпакаёўка Андрэйчанкі каштуе больш за $400 тысяч.

***

*У лістападзе 2011 года Андрэйчанка атрымаў ад Мінгарвыканкама яшчэ і зямлю пад будаўніцтва катэджа ў Вяснінцы, гэта 1 км ад сваёй кватэры ў Драздах.*

***

**Ягор Марціновіч**
**Чытаць цалкам nn.by**

НАШЫ РЭАЛІІ













**"Новы час"**

Прэзідэнт кажа прэм'еру: *«Трэба дапамагчы малому бізнэсу. Яго тэрарызуюць, так жыць нельга, яму трэба развіццё».*
Прэм'ер кажа чальцам ураду: *«Там праблемы ў малога бізнэсу, мы павінны іх вырашаць».*
Міністр унутраных спраў кажа начальніку ўпраўлення: *«Там нешта не тое з малым бізнэсам... Нешта з гэтым трэба рабіць».*
Начальнік упраўлення кажа міліцыянту: *«Там гэты малы бізнэс дастаў наогул. Тапчы яго да чортавай мацеры!»*

**Расейскі эканаміст**
**Аляксандр Аузан**

ДЗЯРЖАЎНАЯ СІМВОЛІКА

# СВЕТЛАНА КАЛИНКИНА: ТЯП-ЛЯП

**За время долгих выходных в честь Дня независимости мне пришлось несколько раз возвращаться к этой истории. А всего-то хотела – развлечь байкой из жизни белорусского государства друзей-иностранцев.**

Но оказалось, что и мои белорусские друзья не знали о казусе, который случился с одним из главных государственных символов. Не могли поверить. Проверяли мой рассказ по картинкам из Интернета и даже в поля выезжали, чтобы убедиться.

В ходе проверки оказалось, что не курсе хорошо известной в узких кругах истории про пресловутое белорусское тяп-ляп не только мои друзья,но и белорусские посольства, школы, составители книг о государственной символике, члены избирательных комиссий и даже Управление делами президента. Поэтому рассказываю еще раз.

…Герб, флаг и гимн – символы государства. Это значит, что они -- нечто большее, чем просто картинка, или кусок материи, или набор слов под набор звуков. Они проявление некоего глубинного смысла, кода, идеи, которая обязательно становится материальной.

В этой связи хотелось бы поговорить о нынешнем белорусском гербе. Что бы там ни писали в официальных толкованиях, он у нас аляповатый и хитросочиненный. Беларусь изображена в виде облака, которое висит между пятиконечной красной звездой и Землей, над которой восходит солнце. Причем, висит почему-то аккурат над одним из полюсов, будто нас кинуло в крайность, а потом выплюнуло.

Солнце похоже на девушку в кокошнике, обозначенный кусок суши приветствует нас головой дракона, земля изображена не коричневой и не зеленой, а зачем-то фиолетово-сиреневой…

Этот набор странных образов мы видим сквозь предельно реалистичную картинку: снопы ржи, перевязанные красно-зелеными лентами и украшенные цветами, сплетаются в венок. По задумке, справа на венке – цветы клевера, слева – льна.

Беларусь никогда не была житницей, потому колосья для нас ничего не символизируют. В цветках клевера тоже нет никакого глубинного смысла (разве что напоминают помпоны на шапке, а Беларусь, действительно, страна не жаркая). А вот лен – да. Лен – это то немногое на современном белорусском гербе, что, по мнению специалистов, могло стать не просто картинкой, но нести в себе и смысл, и символ. И тут не о наших голубых глазах речь (тем более, что цветки льна могут быть не только голубыми, но и фиолетовыми, синими, розовыми, даже желтыми). Лён – одно из самых древних растений, с которым человек подружился: им и питались, и лечились, и одевали себя, и украшали дом. Традиции возведения льна свидетельствуют о древней культуре народа. Кто-то давным-давно научился делать вино, кто-то – выращивать рис, а мы – лён… Звучит!

К тому же, сам цветок льна – непростой, потому что имеет пять лепестков. И это вам не какая-нибудь ромашка с романтическим подтекстом «любит-не любит».

Трехлистник, как известно, символ Ирландии, напоминает крест, символизирует христианство. Во Франции – символ королевского дома.

Четырехлистник традиционно является символом невероятной удачи и благополучия: один лепесток для славы, один для богатства, один для любви и один для здоровья.

А вот пятилистник это символ женщины, матери-земли, в христианской традиции – Богородицы… И на самом деле красивую можно придумать легенду про народ, который охраняет матерь Божья, оттолкнувшись от этого цветка, если бы символы белорусского государства не делались в спешке и горячке по методу тяп-ляп.

Еще раз обращаю внимание: у цветков льна пять лепестков. И только пять!

А на белорусском гербе почему-то изобразили голубые цветы с шестью лепестками. То есть как угодно это называется, но это оказался ни в коем случае не лен.

Допустить такой ляп в гербе страны – это настоящий позор. Тем более, что при замене герба «Погоня» на «качан капусты» нас убеждали, что над эскизом работали лучшие и авторитетнейшие специалисты и комиссии.

Вот такие «лучшие», вот такие «специалисты», вот такой оказался герб, вот такой государственный символ, вот такая жизнь – тяп-ляп.

Исправляли ляп по-тихому аж в 2004 году, приняв новый закон о государственной символике. Ничего особо не объясняли и не комментировали. Страна даже не узнала о позоре, который случился. Причем, не узнали не только простые обыватели, но и люди ответственные, осведомленные. В итоге если сегодня посмотреть образец герба Беларуси на сайте белорусского президента, то там он правильный -- у льна пять лепестков. А вот на сайтах дипмиссий, школ, на фото с избирательных участков и даже в образцах продукции, предлагаемой Управлением делами президента до сих пор красуются государственные символы с изображением цветка-мутанта. Здесь никаких распоряжений не получали, здесь по-прежнему не в курсе.

Как корабль назвали, так он и плывет… Тяп-ляп…

**Народная Воля**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# ТЭСТ ДЛЯ ДЭПУТАТАЎ

**«Народны рэферэндум» ладзіць своеасаблівую праверку дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў на чуллівасць да волі народа. На гэтым тыдні пачаліся нашы сустрэчы з тымі, каго звыкла называюць народнымі абраннікамі, піша першы намеснік старшыні Руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч на Naviny.by.**

Па-першае, мы хочам высветліць, ці сапраўды дэпутаты адкрытыя для выбарцаў і маюць дасяжны графік прыёму. Па-другое, маем намер пры ўдзеле рэгіянальных актывістаў абмеркаваць з імі праблемы акругі, якую прадстаўляе той альбо іншы дэпутат. Па-трэцяе, мы прэзентуем "Народны рэферэндум".

Бо ў хуткім часе, пры канцы жніўня, у Палату прадстаўнікоў будуць накіраваныя першыя з сабраных у падтрымку "Народнага рэферэндуму" 50 тысяч подпісаў. Нагадаем, іх наяўнасць — падстава для ініцыявання дэпутатамі плебісцыта.

Падчас шматлікіх сустрэчаў з людзьмі па Беларусі мы ўжо вывелі пэўны рэйтынг папулярнасці шасці пытанняў, якія складаюць парадак дня "Народнага рэферэндуму". Цікава, якія з іх падаюцца вартымі для вынясення на ўсенароднае галасаванне тым, хто засядае ў Палаце прадстаўнікоў:

- Ці згодныя вы, што ў дзяржаўных установах адукацыі і аховы здароўя ўсе паслугі грамадзянам Беларусі павінны аказвацца бясплатна?

- Ці згодныя вы, што кіраўнікі выканкамаў гарадоў, раёнаў, абласцей павінны абірацца прамым галасаваннем грамадзян?

- Ці падтрымліваеце вы курс на эканамічную інтэграцыю, асацыяцыю і стварэнне бязвізавай прасторы з Еўрапейскім Саюзам?

- Ці згодныя вы, што дзеля забеспячэння нейтральнага статусу Беларусі ў краіне павінна быць забаронена размяшчэнне замежных вайсковых аб'ектаў, ядзернай зброі, а беларускія вайскоўцы не мусяць несці службу за мяжой?

- Ці згодныя вы, што адна і тая ж асоба не можа займаць пасаду прэзідэнта больш за два тэрміны?

- Ці згодныя вы, што грошы, атрыманыя ад запланаванай урадам прыватызацыі, у першую чаргу павінны пайсці на кампенсацыю ўкладаў, згубленых пад час дэвальвацыі-2011, і стварэнне працоўных месцаў?

На гэтым тыдні ў складзе дэлегацыі "Народнага рэферэндуму" наведаў Магілеў. Нягледзячы на нячастыя прыёмы грамадзян тамтэйшымі дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў, ажыятажу не назіралася. Выбарцы ішлі да дэпутатаў з мясцовымі пытаннямі, якія б маглі паспяхова вырашацца мясцовымі ўладамі пры ўмове іх самастойнасці і эфектыўнасці.

Мы звярнуліся да "народных абраннікаў" як з лакальнымі пытаннямі, так і з пытаннямі нацыянальнага маштабу. Дэпутаты выявілі сваю абазнанасць у мясцовых праблемах, на пытанні ж кампаніі "Народны рэферэндум" рэагавалі стрымана. Адчувалася, што інфармацыя для іх - не новая, але сваё стаўленне, магчыма і негатыўнае, яны адкрыта выказаць не могуць: пад ініцыятывай стаіць жа 50 тысяч подпісаў, у тым ліку і іх выбарцаў.

Прызначаныя, але не абраныя на свабодных выбарах, яны разумеюць сваю ролю ў сістэме сённяшняй улады, таму радыя любой увазе, нават з боку апазіцыі. А для нас такія сустрэчы — рэальная магчымасць яшчэ хоць на паўкрока наблізіць правядзенне "Народнага рэферэндуму".

На 50 тысячах подпісаў "Народны рэферэндум" не спыняецца. Мэта не мяняецца — іх будзе сабрана паўмільёна.

Мы ўпэўненыя, што сёння прыхільнікі пераменаў, мірных і незваротных, ужо складаюць большасць беларусаў. Неабходна толькі аб'яднаць гэтую большасць і прымусіць уладу лічыцца з пазіцыяй актыўных і неабыякавых грамадзян.

Пацвярджаюць наш аптымізм і апошнія, чэрвеньскія, дадзеныя Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (Вільня). Задавалася пытанне пра самы рэалістычны і пажаданы варыянт пераменаў. Палова апытаных назвала выбары, траціна згадала рэферэндум. Толькі 8% — вулічны пратэст.

Сярод тых, хто не давярае Лукашэнку, лічбы адпаведна такія: 29,2% верацьу выніковасць выбараў, 43,5% — у плён рэферэндума, 16% спадзяюцца на Плошчу.

На пытанне пра тое, ці павінны дэпутаты парламента падтрымаць 50 тысяч грамадзян, якія паставілі свае подпісы за "Народны рэферэндум", і абвясціць у Беларусі рэферэндум, 44,5% адказалі станоўча, а 37,5% адмоўна (18% устрымаліся). Прычым 31,7% рэспандэнтаў лічаць, што такі рэферэндум лепш правесці да канца 2014 года, звыш 20% — сумясціць з прэзідэнцкімі выбарамі ў 2015 годзе, 15% — пасля прэзідэнцкіх выбараў.

Зрэшты, ёсць варыянт, калі ініцыятары "Народнага рэферэндуму" гатовыя згарнуць ініцыятыву. Гэта калі ў 2015 годзе ў краіне з'явіцца новы прэзідэнт, які ў сваёй палітыцы ўлічыць яго змест і меркаванні сотняў тысяч грамадзян, якія падпішуцца "за".

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 28.07.2014 у 20.50**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.